НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

# ЗАМЕЖЖА

* ІТАР-ТАСС * НАРОДНАЯ ГАЗЕТА *

*Пульс дня*

## Венгерские бизнесмены осваивают Кыргызстан

**Завершен визит в Кыргызстан группы венгерских бизнесменов во главе с госсекретарем МИДа Андрашем Келеманом.**

“После развала СЭВ, — сказал госсекретарь МИД Венгрии, — мы поняли, что наша ориентация на Запад слишком однобока. Нынешняя поездка по государствам Средней Азии и призвана восстановить разрушенные связи. Уже предварительные переговоры показали, что Кыргызстан готов сотрудничать с нами в банковском деле, энергетике, сельском хозяйстве”.

## Выезжай, кто может?

**Председатель правления еврейского агентства Симха Диниц заявил, что "необходимо в экстренном порядке вывезти из бывшего СССР в Израиль как можно больше евреев".**

Этот призыв является реакцией на заявление пресс-секретаря президента России Вячеслава Костикова о том, что в случае поражения Бориса Ельцина на предстоящем референдуме может быть приостановлен выезд евреев в Израиль. Это заявление было сделано В.Костиковым в ходе встречи с группой израильских журналистов в Москве.

## “Экспорт детей” — не вымысел

**“Экспорт детей” из стран Западной Африки — не вымысел журналистов. Это подтверждает инцидент с заирской гражданкой Мункой Атите в международном аэропорту столицы Конго.**

Молодая женщина, намеревавшаяся вылететь в Брюссель в сопровождении пяти детишек, привлекла внимание таможенной службы. Полиция решила оперативно связаться с их родителями. Те же заявили, что их дочь имеет лишь одного сына, да и тот проживает в Бельгии.

Как выяснилось, "многодетная" мать не в первый раз проворачивала подобные дела. Она назвала своих сообщников и сообщила, что уже несколько лет перевозила детей под вымышленными именами в Западную Европу. Там они передавались выходцам с черного континента, которые получали от властей за каждого ребенка солидные семейные пособия.

## Свастика и звезда — рядом

**Венгерский парламент принял закон, запрещающий "использование и ношение" символики тоталитарных режимов — фашистской свастики, нашивок "СС", серпа и молота, пятиконечной красной звезды. Предусмотрели депутаты и соответствующее наказание за нарушение нового правового акта.**

Провинившихся ожидает лишение свободы сроком до одного года и крупный денежный штраф. Правда, в законе содержится оговорка, согласно которой нельзя преследовать тех, кто использует ту же свастику или серп и молот "в научно-популярных, образовательных, культурных целях, а также с целью информирования об истории и сегодняшнем дне Венгрии". Кроме того, закон не распространяется на официальную символику других государств и носящих ее иностранцев.

*Навіны Літвы*

## З пенсіянераў — у акцыянеры

У Літве працаўнікам прадпрыемстваў даецца права першынства ў выкупе не 30 працэнтаў яго маёмасці, як раней, а палавіны. Прычым частку маёмасці можна набыць на льготных умовах. Гэта датычыць і фабрык па перапрацоўцы сельгаспрадукцыі. Палавіну маёмасці выкупляюць іх работнікі, а другую палавіну — земляробы, якія пастаўляюць ім сваю прадукцыю.

Па новаму палажэнню акцыянерамі прыватызаваных заводаў змогуць стаць таксама былыя работнікі, якія аддалі прадпрыемству большую частку працоўнага жыцця.

## Знешняя палітыка пакуль што ў праекце

Асноўная прыкмета, што вызначае знешнюю палітыку Літвы, — яе незалежнасць і шматпланавасць. Аб гэтым гаварылася ў сейме пры абмеркаванні праекта праграмы, прадстаўленага ўрадам. Акцэнтавалася, што Літва ні да кога не мае тэрытарыяльных прэтэнзій, хоча падтрымліваць сяброўскія адносіны з усімі блізкімі і далёкімі краінамі на аснове прынцыпаў парытэту і ўзаемнай выгады. Важнейшая задача ўрада ў гэтай галіне, падкрэсліваецца ў праекце, зрабіць яе больш канцэптуальнай і прагматычнай. У час дыскусіі падкрэслівалася, што асаблівае месца ў знешняй палітыцы Літвы павінны займаць адносіны з бліжэйшымі суседзямі — Латвіяй і Эстоніяй. Разам з тым рэспубліцы неабходна інтэгравацца ў еўрапейскую палітычную і эканамічную прастору, развіваць адносіны з краінамі СНД.

## Мяккай пасадкі!

Апошнія работы перад адкрыццём вядуцца ў новым будынку Вільнюскага міжнароднага аэрапорта. Капітальная рэканструкцыя паветраных варот сталіцы будзе весціся яшчэ два гады. Намечана перарабіць 1400 метраў узлётна-пасадачнай паласы, абнавіць стары будынак. Такім чынам, у Вільнюсе змогуць рабіць пасадку амаль усе самалёты, што лятаюць у Еўропе.

Новы міжнародны аэрапорт за гадзіну зможа абслугоўваць да 900 пасажыраў, або чатыры самалёты адначасова, што амаль у два разы больш, чым цяпер. Асаблівая ўвага ўдзяляецца бяспецы палётаў. Для павышэння кваліфікацыі ў ЗША вылецела група з 30 спецыялістаў розных службаў аэрапорта.

# Нацыянальны герой з ярлыком правакатара

**Сяргей ЖЫРНІХІН**

**Ці быў агентам НКУС лідэр рэвалюцыі 1956 года, пакараны венгерскі прэм'ер Імрэ Надзь? Адказ на гэта пытанне ўсё больш хвалюе венгерскую грамадскасць.**

Пасля публікацыі ў італьянскай газеце “Стампа”, у якой са спасылкай на сакрэтныя маскоўскія архівы сцвярджалася, што І.Надзь быў завербаваны НКУС у 30-я гады і спраўна служыў гэтай арганізацыі ажно да нападзення Гітлера на СССР, у Венгрыі разгарнулася ажыўленая палеміка па гэтаму пытанню.

Спачатку з сенсацыйнай заявай выступіў пераемнік Янаша Кадара на пасту кіраўніка партыі венгерскіх камуністаў, былы Генеральны сакратар Венгерскай сацыялістычнай рабочай партыі Карой Грос. Ён расказаў аб тым, што пры дапамозе Міхаіла Гарбачова і пры пасрэдніцтве шэфа КДБ Уладзіміра Кручкова кіраўніцтву ВСРП ужо ў 1989 годзе стала вядома, што сімвал венгерскай рэвалюцыі Імрэ Надзь быў правакатарам і агентам НКУС. Былы лідэр ВСРП лічыць фотакопіі прадстаўленых у свой час Масквой архіўных матэрыялаў сапраўднымі дакументамі.

У сувязі з гэтым уяўляе інтарэс меркаванне намесніка старшыні Таварыства Імрэ Надзя, вядомага венгерскага пісьменніка і журналіста Янаша Весі. З яго пункту гледжання, сапраўднасць апублікаваных “Стампай” папер аб сапраўдным твары “прэм'ера-пакутніка” выклікае моцныя сумненні. Ён лічыць, што існуюць сілы, зацікаўленыя ў тым, каб прыклеіць ярлык правакатара і агента спецслужбаў нацыянальнаму герою Венгрыі. “Карой Грос сцвярджае, што ў Венгрыі знаходзіцца больш дакументаў аб супрацоўніцтве І.Надзя з НКУС, чым апублікавала італьянская газета”, — заявіў у інтэрв'ю “Непсабадшаг” Я.Весі. “Зусім слушна задаць яму пытанне: дзе ж канкрэтна захоўваюцца згаданыя паперы?”

З пункту гледжання венгерскага літаратара, у ачарненні добрага імя Імрэ Надзя зацікаўлены пэўныя палітычныя сілы не толькі ў Венгрыі. На яго думку, пачатак гэтай справе быў пакладзены ў Расіі, дзе адна з правых газет пачала раскручваць гэту тэму. Італія таксама перажывае зараз унутраны крызіс, і “справу Імрэ Надзя” можна рэальна скарыстоўваць у барацьбе супраць сацыялістаў, якія многае зрабілі для таго, каб свет прызнаў ролю венгерскага прэм'ера ў барацьбе супраць таталітарызму.

Дакументы, якія прадаставіў КДБ, піша Я.Весі, наўрад ці варта прымаць на веру без дэталёвага і працяглага вывучэння пры абавязковай навуковай экспертызе іх сапраўднасці. Вядома, што ў гэтай арганізацыі працаваў цэлы аддзел, які спецыялізаваўся на фальсіфікацыі дакументаў.

Акрамя таго, калі паперы, якія ганьбяць І.Надзя, існавалі ў сапраўднасці, то незразумела, чаму ў свой час Мікіта Хрушчоў не скарыстаў гэту акалічнасць у выкрыцці сталінізму, задаецца пытаннем Янаш Весі. Чаму гэтыя дакументы не былі скарыстаны для таго, каб “загнаць у кут мяцежнага венгерскага прэм'ера яшчэ пры яго жыцці”?

Відаць, І.Надзю давядзецца яшчэ раз, ужо пасля смерці, прайсці трагічны шлях ачышчэння яго імя ад бруду, сцвярджае венгерскі літаратар.

*З замежнага гумару*

У магазіне падарункавых паштовак вісіць аб'ява-заклік: пакажыце ёй, як моцна вы яе кахаеце. Пакупнік (жахліва):
— Што, 45 пенсаў за паштоўку?!.

— Ну добра, добра, куплю я табе новую сукенку. Толькі не гэта...

("Дэйлі мірор".)

*Они — о нас*

# Заповедник казарменного социализма

## Такой представляют Беларусь многие на Западе

**Известный британский журнал “Экономист” недавно опубликовал статью, посвященную нынешней ситуации в нашей республике. Беларусь в изображении анонимного английского журналиста выглядит одновременно и привлекательно, и не очень... Впрочем, познакомьтесь сами с публикуемым ниже переводом статьи.**

“Назад в СССР” ("Back in the USSR") — эта популярная песня 60-х подошла бы в качестве государственного гимна для Белоруссии (именно эта, прежняя транскрипция названия нашего государства использована в “Экономисте”. — Я.Ш.). Не только потому, что жители Белоруссии очень тоскуют по распавшемуся Советскому Союзу, нет — в Белоруссии советские порядки, образца 70—80-х годов, живы.

Огромная статуя Ленина по-прежнему возвышается на центральной площади Минска. Как и прежде, в отелях для иностранцев бдительные охранники следят за тем, чтобы их соотечественники не проникали в гостиницу. Белоруссия, кроме того, стала первой республикой бывшего Союза, в которой формально восстановлена в правах компартия. Вероятно, в нее вновь вступят некоторые видные парламентские деятели.

В государственной торговле действует строгая система нормированного распределения для таких товаров, как сахар (1 кг на человека в месяц), масло (750 г), мука (500 г) и водка (1 бутылка). Все граждане Белоруссии регистрируются в магазине по месту жительства — единственном, где они могут приобрести эти продукты по низким государственным ценам.

Все это звучит довольно кошмарно, но тем не менее белорусы чувствуют себя спокойно. В то время как большинство их соседей-россиян с тоской вспоминают о переполненных товарами полках магазинов при Брежневе, жители Белоруссии могут гордиться хотя бы тем, что им удалось сохранить самый высокий в бывшем Советском Союзе жизненный уровень. Падение производства здесь составило 10% — вдвое меньше, чем в России, дефицит госбюджета, по данным правительства, — 4,6% валового национального продукта.

Проблема, однако, в том, что советское централизованное экономическое планирование никогда не было рассчитано на страну с населением лишь 10 миллионов человек. Отсюда, наверное, стремление белоруссих лидеров к тесному сотрудничеству в рамках СНГ и тесной интеграции с Россией. Увы, отношения с Москвой, хотя она и довольна политической лояльностью Белоруссии, не столь безоблачны. Прежде всего из-за нефти, хотя квота, выделенная Белоруссии в этом году по государственному договору, 16 млн. тонн довольно значительна, например, по сравнению с 20 млн. тонн, которые Россия обязалась поставить Украине, имеющей в пять раз больше населения, чем Белоруссия.

Трудности с энергетическим сырьем постепенно могут вынудить Белоруссию начать закрывать нерентабельные предприятия и ограничить государственный контроль за ценами, который охватывает половину экономики страны.

Путь, выбранный консервативными руководителями Белоруссии, некоторые американские дипломаты и экономисты называют “эволюционным” и отзываются о нем с похвалой. Может быть, с их стороны это своеобразная форма “благодарности” за быструю и беспрепятственную ратификацию Белоруссией договора по стратегическим вооружениям?

**Подготовил Ярослав ШИМОВ.**

*Обратите внимание*

## Что американцы ценят больше всего

**(по шкале от 10 до 1)**

**9,0** Чистую воду
**8,9** Низкий показатель преступности
**8,7** Чистый воздух
**8,5** Достаточное число врачей
**8,5** Достаточное число больниц
**8,1** Авторитетное местное управление
**8,1** Рост ценности домов
**8,0** Недорогую жизнь
**8,0** Низкий подоходный налог
**8,0** Низкий налог на недвижимость
**7,9** Хорошие школы и библиотеки
**7,9** Доступную медицинскую помощь
**7,8** Малую уязвимость при экономических спадах
**7,8** Возможности для новых бизнесов
**7,7** Будущий рост рабочего рынка
**7,7** Доступное страхование машин
**7,6** Низкий налог на покупки
**7,5** Низкий риск повышения штатного налога
**7,5** Близость к колледжам
**7,5** Недавний быстрый рост рабочего рынка
**7,4** Близость озер или океана
**7,4** Разнообразие местных предприятий
**7,4** Высокую активность населения
**7,2** Хорошую экологическую ситуацию
**7,1** Низкий уровень безработицы
**6,7** Небольшие расстояния до места работы
**6,7** Близость национальных парков или лесов
**6,4** Невысокую стоимость жилья
**6,4** Обилие солнечных дней
**6,3** Низкий риск стихийных бедствий
**6,2** Близость к родственникам
**6,2** Близость мест богослужения
**6,2** Близость крупного аэропорта
**5,9** Близость большого города
**5,6** Близость музеев
**5,2** Хороший общественный транспорт
**5,2** Местные симфонические оркестры
**4,9** Спортивные команды высшей лиги
**4,8** Крупные зоопарки и аквариумы
**4,1** Возможность катания на лыжах
**4,0** Местные парки с аттракционами
**3,6** Спортивные команды низшей лиги
**3,5** Удаленность от ядерных реакторов
**3,0** Отсутствие опасных отходов

*Слыхали?*

## Дали копоти...

**Прахом пошла солонина, заготовленная к Пасхе жителями деревни Курино Витебского района.**

Головешки остались от полусотни окороков и бани, где они коптились. Это был лишь один из сорока пожаров в области за первую десятидневку апреля. Всего “красному петуху” удалось “склевать” добра более чем на 10 миллионов рублей.

**Степан СТАРОЖИЛ.**

# Заява апазіцыі Беларускага народнага фронту ў Вярхоўным Савеце

На адзінаццатай нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі яго пракамуністычнай большасцю зроблены яшчэ адзін крок у бездань: прынята пастанова даручыць Старшыні Вярхоўнага Савета падпісаць ад імя Рэспублікі Беларусь дагавор аб “калектыўнай бяспецы” з Расіяй, Арменіяй, Казахстанам, Кыргызстанам, Таджыкістанам, Туркменістанам, Узбекістанам. Камуністы спрабавалі ўвесці ў зман грамадскасць Беларусі, хаваючы свае сапраўдныя намеры — цераз адмаўленне ад нейтралітэту ліквідаваць незалежнасць нашай краіны. Правядзенне палітыкі, скіраванай на знішчэнне нашага нейтралітэту, што цягне за сабой і адмаўленне ад бяз'ядзернасці Беларусі, прымус да ўступлення ў ваенны блок з Расіяй выклікана дзвюма прычынамі. Па-першае, гэта вынік поўнага правалу эканамічнай палітыкі Савета Міністраў і боязь адказнасці перад народам за разбуральныя наступствы сваіх дзеянняў. Наменклатура шукае знешняй сілы, на якую можна зваліць свае грахі і абаперціся, калі ўлада захістаецца. Другая прычына — гэта авантурнае імкненне старых камуністычных сіл адрадзіць ранейшую ўладу КПСС, узнавіць таталітарны СССР. Беларуская посткамуністычная наменклатура, што не прызнавала самастойнасці і суверэнітэту краіны, заўсёды вылучалася правінцыяльнасцю і нацыянальным нігілізмам, фактычна ўступіла ў змову з найбольш рэакцыйнымі і артадаксальнымі пракамуністычнымі сіламі Расіі, зацікаўленымі ў рэанімацыі КПСС і інкарпарацыі Беларусі ў аднаўленую імперыю. Кіруючая алігархія Беларусі не падтрымлівае дэмакратычную Расію, а выступае за саюз з Расіяй таталітарнай, камуністычнай, імперскай. Гэтыя людзі гатовыя прадаць свой народ і незалежнасць дзяржавы. Капітуляцыю Беларусі перад ваенным дагаворам аб калектыўнай бяспецы кіруючыя змоўшчыкі хочуць выкарыстаць як адзін з аргументаў супраць дэмакратычнай, антытаталітарнай палітыкі Ельцына ў Расійскай Федэрацыі.

Апазіцыя Беларускага народнага фронту ў сваім “Звароце да народа Беларусі” ("Народная газета" за 6 красавіка г.г.) дала падрабязную юрыдычную і палітычную ацэнку факту змовы пракамуністычных, праімперскіх сіл Расіі і Беларусі. У час сесіі гэтыя аргументы абвергнуты не былі. Усё вырашыла машына для галасавання, усё вырашылі ўжо звыклыя парушэнні рэгламенту — калі канстытуцыйная норма была прагаласавана простай большасцю галасоў, калі не ставіліся на галасаванне пісьмовыя папраўкі дэпутатаў ад апазіцыі і г.д.

Тым не менш Беларускі народны фронт, іншыя дэмакратычныя сілы, што ўзнялі свой голас супраць антынародных планаў урада В.Кебіча, атрымалі маральную перамогу. Пракамуністычнаму, прасаўмінаўскаму лобі, якое складае большасць у сённяшнім Вярхоўным Савеце, давялося пад націскам апазіцыйных дэпутатаў прыняць рашэнне, згодна з якім лёс нейтральнага і бяз'ядзернага статуса нашай дзяржавы павінен будзе вырашацца на ўсебеларускім рэферэндуме. Галоўная мэта дэмакратычных сіл сёння — каб да падпісання дагавора такі рэферэндум адбыўся. Не знята і не можа быць знята з парадку дня таксама пытанне аб адмене незаконнага рашэння Вярхоўнага Савета ад 29 кастрычніка 1992 года аб забароне рэферэндуму па датэрміновай яго адстаўцы, ініцыятарам якога выступілі 442 тысячы грамадзян Беларусі. Толькі новыя выбары паводле дэмакратычнага закона могуць прывесці да замены скарумпіраванай камуністычнай мафіі, якая пакуль што трымае ўладу практычна паўсюдна на Беларусі.

Апазіцыя Беларускага народнага фронту заклікае ўсе здаровыя сілы нашага грамадства гуртавацца вакол ідэй барацьбы за захаванне нейтралітэту нашай дзяржавы, правядзенне рэферэндуму па іншых кардынальных пытаннях нашага жыцця. Мы не маем права даць камуністам змарнаваць той шанц, які гісторыя адпусціла нашаму народу ў канцы XX стагоддзя.

НЕ — уцягванню Беларусі ў ваенна-палітычныя блокі і ў канфлікты далёка за межамі нашай дзяржавы!

НЕ — антынароднаму, пракамуністычнаму ўраду, які рыхтуе глебу для новай рэакцыйнай дыктатуры!

НЕ — паўзучаму наступу камуністычных праімперскіх сіл на Беларусі, цесна звязаных з антыдэмакратычнымі сіламі ў Расіі!

Жыве нейтральная, мірная, дэмакратычная, вольная Беларусь!

**Дэпутаты апазіцыі БНФ ў Вярхоўным Савеце.**

**Ад рэдакцыі.** *Заява ёсць заява, гэта афіцыйны дакумент, рэдагаваць які рэдакцыя не мае права. Але мы не выключаем таго, што ў апанентаў дэпутацкай апазіцыі Вярхоўнага Савета ёсць свае меркаванні наконт грамадска-палітычнай і эканамічнай сітуацыі, якая склалася на Беларусі, як, дарэчы, і наконт дзеянняў парламента і ўрада. Такім чынам, размова можа быць працягнута.*

*Закон и я*

**Раздел ведет заведующий юридическим бюро “Народной газеты”, кандидат юридических наук Ричард ГАЕВСКИЙ**

# О земельном налоге

В редакцию “Народной газеты” обращаются читатели с просьбой ответить на вопросы, касающиеся уплаты земельного налога, налога на недвижимость и налога по страхованию имущества. Выполняем их просьбу.

***Какими нормативными актами регулируется взимание земельного налога с граждан?***

**О.И.ЛЕМЕШКО, Добрушский район.**
**Д.Ф.СКЛАДОВСКИЙ, Солигорский район.**

Порядок исчисления и уплаты земельного налога гражданами регулируется следующими законами Республики Беларусь: “О платежах за землю”, принятым Верховным Советом 18.12.91 г. и вступившим в законную силу с 01.01.92 г. и “О внесении изменений и дополнений в некоторые законы Республики Беларусь о налогообложении”, принятым 23.12.92 г. В соответствии с названными законами Главной государственной налоговой инспекцией Министерства финансов Республики Беларусь и Комитетом по земельной реформе и землеустройству при Совете Министров Республики Беларусь 30.03.1992 г. принята инструкция N 16 “О порядке исчисления и уплаты земельного налога гражданами” с изменениями и дополнениями, внесенными 29.01.93 г. на основании указанного закона.

Многих читателей “Народной газеты”, в частности С.И.Лепницкую из Глубокского района, С.Ф.Выборенко из Вилейского и других, интересует: ***кто из граждан должен платить земельный налог?***

Ответ на этот вопрос содержится в пункте 5 упомянутой инструкции. Плательщиками земельного налога являются граждане, которым земельные участки предоставлены во владение, пользование либо в собственность.

Земельный налог уплачивают граждане за земельные участки, предоставленные для ведения личного подсобного хозяйства, строительства и обслуживания жилого дома, садоводства, животноводства, сенокошения и выпаса скота, дачного строительства, традиционных народных промыслов, в случае получения по наследству или приобретения жилого дома, а также для жилищно-строительных и гаражно-строительных кооперативов и других нужд.

***От чего зависит размер налога за землю?***

**А.ЕЛИСЕЕНКО, Браславский район.**
**С.З.КУХАРЕНКО, Столинский район.**

Размер земельного налога зависит от качества земли, месторасположения земельного участка, дифференцированного по районам Беларуси, от целей, для которых участок предоставлен гражданину для пользования.

Статьей 11 закона и пунктом 11 инструкции предусмотрено, что **земельный налог** за земельные участки, расположенные в границах населенных пунктов, а также за пределами населенных пунктов, предоставленные гражданам для ведения личного подсобного хозяйства, строительства и обслуживания жилого дома, садоводства и животноводства, сенокошения и выпаса скота, дачного строительства, традиционных народных промыслов, и в случае получения по наследству или приобретения жилого дома **устанавливается** при наличии кадастровой оценки земельного участка, а при отсутствии кадастровой оценки (для сведения — в настоящее время она отсутствует) — по средним ставкам земельного налога по административным районам.

Например, при предоставлении в пользование земельного участка для указанных целей в Дзержинском районе Минской области земельный налог будет исчисляться на 1993 год за 1 сотку по ставке 16 руб. 36 коп., в Минском районе и в г.Минске — 18 руб. 51 коп., в Ивацевичском районе — 13 руб. 92 коп.

***Предусмотрены ли действующим законодательством льготы по земельному налогу? Если да, то кому?***

**И.П.МЫШКОВСКАЯ, г.Гродно.**
**В.П.АНДРИЕВЧИК, Шумилинский район.**

Да, предусмотрены. Согласно пункту 12 инструкции, от уплаты земельного налога освобождаются:

1. Участники Великой Отечественной войны, в том числе инвалиды из числа бывших партизан либо другие лица из числа военнослужащих, ставших инвалидами вследствие ранения, контузии или увечья, полученных при защите Родины или при исполнении иных обязанностей военной службы либо вследствие заболевания, связанного с пребыванием на фронте, а также другие инвалиды, приравненные по пенсионному обеспечению к указанным категориям военнослужащих.

Основанием для предоставления указанных льгот являются “Удостоверение участника войны”, “Удостоверение инвалида Отечественной войны”, а другим инвалидам, указанным выше, — “Удостоверение о праве на льготы”.

2. Родители и жены военнослужащих, умерших вследствие ранения, контузии или увечья, полученных при защите Родины или при исполнении иных обязанностей военной службы либо умерших вследствие заболевания, связанного с пребыванием на фронте.

Женам указанных военнослужащих льгота предоставляется только в том случае, если они не вступили в повторный брак.

Названная льгота предоставляется родителям и женам военнослужащих и партизан, пропавших без вести на фронтах ВОВ либо во время других боевых операций по защите Родины или при исполнении иных обязанностей военной службы.

Основанием для предоставления льготы служит пенсионное удостоверение либо справка воинской части или военного комиссариата, извещение или справка о пропаже без вести.

3. Пенсионеры, независимо от вида получаемой пенсии, инвалиды 1-й и 2-й групп и другие нетрудоспособные граждане при отсутствии совместно проживающих трудоспособных членов семьи, а также многодетные семьи (имеющие 3 и более несовершеннолетних детей).

4. Граждане, переселившиеся в сельские населенные пункты трудонедостающих территорий в первые 3 года после принятия решения о предоставлении им земельного участка.

Льгота предоставляется при наличии приглашения хозяйств и сельских Советов народных депутатов.

5. Граждане, переселившиеся в сельские населенные пункты из зон отселения территории радиоактивного загрязнения (зона первоочередного отселения, зона последующего отселения, зона с правом на отселение) в первые 3 года после принятия решения о предоставлении им земель.

Основанием для предоставления льготы являются “Удостоверение потерпевшего от катастрофы на ЧАЭС”, “Эвакуационное удостоверение”, а для выехавших самостоятельно (после 26.04.86 г.) — штамп о прописке в паспорте, подтверждающий проживание граждан в указанных зонах.

6. Граждане за земли сельскохозяйственного назначения, на которых введены ограничения по ведению сельского хозяйства (территория с плотностью загрязнения радиоцезием выше 5 Ки/кв. км).

